*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5(339)** **11 ЛЮТАГА 1998 г.**

*Інфармацыйнае поле*

## Чатыры тыдні ў студзені.

Прыватны агляд беларускіх mass-media.

*“**Наша Слова**”: Вынікі падпіскі і продажу;*
*“**Спадчына** “ №№ 4.6: сп. Грынкевіч “У братоў украінцаў”;*
*Каляндар газеты “**Царква**” за 1998 год.*

Нечакана для мяне гэты першы агляд беларускай інфармацыйнай прасторы прысвечаны перш за ўсё публікацыям таго самага выдання, ў якім, я спадзяюся, ён пабачыць свет. Але гэта, па маім перакананні, матэрыял асаблівай важнасці. “Наша Слова” ў студзені здабылося на інфармацыйны ўчынак рэвалюцыйнага характару.

Упершыню я ўбачыў на старонках газеты шчырую інфармацыю пра яе распаўсюджанне, прычым, далёка не самую прыемную для рэдакцыі! Упершыню праблема колькасці прыхільнікаў Беларушчыны вынесеная імі самімі на публічны разгляд у выглядзе канкрэтных лічбаў. Я вітаю рэдактара і рэдакцыю і дзякую ім за гэты мужны крок. Нарэшце садраныя пакровы з супольных нашых грахоў, нанесены рашучы ўдар па мовафільскіх міфах, знойдзены годны адказ на эмацыйныя выгукі і слязлівыя заклікі.

Як рэферэндум 1995 году выявіў, што выдатна давёў у свой час, здаецца, С.Дубавец, мільённую сацыяльную базу прыхільнікаў Беларушчыны і назалежнасці, так звесткі “Нашага Слова” дэманструюць нам усю нішчымнасць нібыта найбольш актыўнай часткі гэтага мільёна.

Я пішу пра гэта , каб заклікаць чытачоў газеты: не сумуйце! Гэта шчасце, што нарэшце мы ўведалі яшчэ адзін неабходны нам кавалачак праўды. Гэта цудоўна, што развеяўся ружовы туман. Нічога ж на самай справе не змянілася, а туман, ружовы ён, ці не, замінае ісці да мэты.

Дарэчы, нарыс з 1936 году, які мы маглі дачытаць у гэтым месяцы ў “Спадчыне”, даў нам выразны прыклад цвярозага падыходу. Мне даўно здавалася, што і міжваенны перыяд, і гісторыя, нашых паўднёвых суседзяў дарма застаецца па-за нашай увагаю (або нездарма схаваныя ад нас), але ў цемнаце сваёй я не ўяўляў, колькі мы губляем з гэтае прычыны.

У тыя далёкія часы, як сведчыць нарыс сп. Грынкевіча, сабраны быў бясцэнны для нас сёння досвед жыцця ва ўмовах хай вельмі недасканалага, але ўсё ж неталітарнага ладу. Гэта досвед працы і самаарганізацыі, веданне меры часу і высілкаў, патрэбных для зменаў у грамадскіх дачыненнях. Гэта шматлікія ўзоры поспехаў і памылак у развязванні такіх спраў, якія сёння зноў стаяць перад намі.

Гэты самы матыў повязі праз дзесяцігоддзі азваўся зноў, калі каляндар газеты “Царква” заняў сваё месца на сцяне. Ажывае старая, адраджэнцкая традыцыя беларускіх календароў.

Не ведаю чаму, але беларускае слова ў календары радуе мяне нават болей, чым у кнізе ці газеце.

Выданне “Царква” радуе да таго ж добрай паліграфіяй, высакароднымі тэкстамі, старанннай падрыхтоўкай. З Новым Годам!

***Д.Жукоўскі.***

## Знаёмцеся з геральдыкай

Без паперкі ты ... Бессмяротнае прыходзіць на памяць, калі бачыш на вітрыне грозны шэраг пячатак і адбіткаў па сургучы. Але не славутай гісторыі бюракратычнага апарату, адной з дэталей якога з’яўляецца пячатка, прысвечана пастаянная выстава ў Гістарычным музеі, а старыжытнай геральдыцы Беларусі. Геральдычныя сімвалы выяўлены не толькі на пячатках прыватных, земскіх, канфесійных і адміністрацыйных, але і на манетах Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, кафлі і ў раскопках Заслаўя і Магілёва XVI-XVII ст.ст., на старажытных кнігах і дакументах.

І, зразумела, гярбы, быццам бы сыйшоўшыя з тарчаў беларускіх драбаў, якія нішчаць ворагаў пад Грунвальдам і Смаленскам.

Як і чалавек, герб мае ўласнае імя, якое можа ўтварыцца ад мянушкі— “Драгаслаў”, ад баявога поклічу — “Даленга”, ад жывёлы, стаўшай сімвалам мужнасці і сілы — “Ястраб”. Але не толькі шляхта мела свае гярбы, а і гарады, кляштары і, нават, асобныя цэхі маглі ўзняць свой штандар з уласным гербам.

Стваральнікі выставы імкнуліся ахапіць практычна ўвесь перыяд беларускай геральдыкі, пачынаючы “драгічынскімі пломбамі” XIV ст. і заканчваючы сучаснымі работамі мастакоў, але якія адлюстроўваюць усю тую ж старажытную сімволіку.

У выставе не знайшлося месца сімвалам, створаным у савецкі час. Занадта вялікі дысананс атрымаўся б у выніку.

Хаця выстава і невялікая, але будзе даволі цікавая для тых, каму не ўсё роўна, чым жылі нашы прашчуры і шт о пакінулі ў спадчыну нашчадкам.

***Кухта Ул., Вайцяховіч А.***
***студэнты БУКа***

# с у п р а с л ь

## Што чакае кляштар у Супраслі?

У канцы XV ст. сярод глухіх лясоў Белавежскай пушчы вядомыя беларускія дзеячы сярэднявечча вялікі гетман літоўскі Аляксандр Хадкевіч і смаленскі епіскап Язэп Солтан заснавалі Супраслеўскі кляштар. Неўзабаве, у пачатку XVI ст. тут быў збудаваны адзін з шэдэўраў беларускай мураванай готыкі - абарончы чатырохвежавы храм імя Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

Царква ўзводзілася ў гады актыўных ваенных дзеянняў Вялікага княства Літоўскага з Рускай дзяржавай і крымскімі татарамі. Якоаз тады назіраецца інтэнсіўная пабудова фартэцаў у суседніх Беластоку, Тыкоціну, Кнышыну і іншых гарадах. Сам А. Хадкевіч будуе ў Гарадку ўмацаваны замак і ўласныя харомы, а ў 1510 г. заканчвае ўмацаваную Супраслеўскую царкву, значэнне якой ён недвухсэнсоўна падкрэсліў у сваёй грамаце: “Абы тот монастырь... на нашей отчизне твердо на веки стоял нашим споможением”.

Вядомы даследчык беларускай гісторыі і архітэктуры, прафесар Міхась Ткачоў у сваёй манаграфіі “Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII-XVIII ст.ст.” адзначаў, што “Супраслеўская царква, бяспрэчна, займае выдатнае месца сярод тых 4-х вежавых будынкаў, у якіх своеасаблівы архітэктурны стыль беларускай готыкі знайшоў сваё поўнае праяўленне. Будынак з’яўляецца яркім узорам сінтэтычнасці гэтага стылю, які ўдала спалучаў усе папярэднія асновы грамадзянскай і ваеннай архітэктуры. Ён дазваляе ўбачыць, з якіх элементаў вырас і выкрышталізаваўся новы архітэктурны стыль і праз якія папярэднія этапы развіцця прайшло старажытнае беларускае дойлідства.

Нарэшце , Супраслеўскі храм мае важнае значэнне ў вырашэнні пытання генэзы 4-вежававга абарончага храма на Беларусі, у вызначэнні канкрэтнага месца ўзнікнення першага такога будынка”. Беларускі вучоны лічыў, што першым такім храмам была Полацкая Сафія, перабудаваная ў абарончы храм у канцы XV ст.

З дапамогай сербскіх мастакоў інтэр’еры гэтай царквы былі распісаны ўнікальнымі фрэскамі. Аднак у 1944 годзе храм быў узарваны і ад яго засталіся толькі падмуркі. Рэшткі фрэсак былі выстаўлены ў мясцовым музеі, што знайходзіўся ў кляштары. Амаль усе будынкі кляштара пасля вайны належалі дзяржаве і паступова прыйшлі ў заняпад.

Пасля аднаўлення дэмакратыі ў Польшчы, мясцовае праваслаўнае насельніцтва за свае сродкі пачало аднаўляць гатычны храм XVI ст. (работы ўжо зроблены на дзве трэці) і ставіць пытанне пра вяртанне праваслаўнай царкве Польшчы усіх будынкаў кляштара.

Пад час візіту Станіслава Шушкевіча ў Польшчу летам 1992 г. гэта ініцыятыва была падтрымана беларускай дзяржавай, а былы кіраўнік Гарадзенскай вобласці Дзмітры Арцыменя аказаў канкрэтную матэрыяльную дапамогу з боку вобласці для аднаўлення беларускага музея ў Гайнаўцы і кляштара ў Супраслі.

Справа пра вяртанне будынкаў кляштара ішла вельмі марудна, аднак у 1996 г. увесь Супраслеўскі кляшторны комплекс перайшоў у валоданне праваслаўнай царквы. Улічваючы дрэнны стан кляшторных будынкаў, польскі урад, а дакладней тагачасны яго прэм’ер-міністр, 15 кастрычніка 1997 года, прыняў змеркаванне пра выдзяленне 600.000 новых злотых на тэрміновы рамонт кляшторнага корпуса.

Але новы кіраўнік польскага ўрада нядаўна змеркаваў скараціць гэтую суму напалову, спасылаючыся на вельмі неспрыяльны год для Польшчы з акалагічнага гледзішча. Адначасова ў прэсе з’явіліся публікацыі пра тое, што гэта “адплата беларускаму электарату”, а дакладней пакаранне яго за тое, што беларусы ў асноўным галасуюць за левых польскіх палітыкаў. (Былы прэм’ер сацыял-дэмакрат, а сённяшні - прадстаўнік правага крыла Салідарнасці).

Гэтая сітуацыя выклікала напісанне 20 студзеня 1998 года вядомымі беларускімі і ўкраінскімі дзеячамі Польшчы адкрытага ліста да кіраўніка польскага ўрада з просьбаю адмяніць гэтае несправядлівае змеркаванне.

Я спадзяюся, што грамадскасць Беларусі патрымае гэтую ініцыятыву нашых беластоцкіх сяброў, а ўрад Беларусі, які так шчодра аплочвае розныя “Славянскія базары”, знойдзе нейкую прыстойную суму грошай для падтрымкі аднаўлення аднаго з буйнейшых помнікаў сярэднявечнай усходнеславянскай культуры - кляштара ў Супраслі.

**А.Трусаў**,
*кандыдат гістарычных навук*

**БЕЛАСТОК, дня 20 студзеня 1998 г.**

## Адкрыты ліст да прэм’ера Рэчы Паспалітай Польскай Ежы Бузка

На нашай Бацькаўшчыне побач з мноствам справаў, якія вымагаюць развязку і змеркавання мае месца таксама і праблема адраджэння Супраслеўскага кляштара.

Кляштар у Супраслі , зафундаваны ў 1498 годзе праваслаўным магнатам Рэчы Паспалітай, вялікім гетманам літоўскім Аляксандрам Хадкевічам і архіепіскапам смаленскім Язэпам Солтанам на вечна быў і з’яўляецца зараз для людзей, якія тут жывуць: русінаў - як называлі іх у мінулым, зараз беларусаў і ўкраінцаў, духоўным і культурным цэнтрам. Так было спачатку, пакуль ён быў праваслаўным, пазней, калі стаў вуніяцкім і калі зноў вярнуўся да праваслаўя.

Нажаль лёс гэтага ўнікальнага помніка гісторыі ў XX стагоддзі быў трагічны. У 1944 годзе нямецкія войскі пры адступленні разбурылі галоўную святыню кляштара - царкву Звеставання Найсвяцейшай Дзевы Марыі, а дзяржаўныя інстытуты, якія адказвалі за стан аб’екту - з 1996 года ён быў уласнасцю дзяржавы - апошнія дзесяць гадоў не рабілі нічога, каб стрымаць яго заняпад. Тыя , хто павінны былі трымаць апеку над аб’ектам, не спадобіліся нават на такія элементарныя праявы клопату, як прачыстка забітай трубы, ці замацаванне адарванай дахоўкі. У выніку праваслаўнай царкве былі вернуты будынкі, якія затапляліся вадой, з мокрымі, пакрытымі плесеннню сценамі, няспраўным начыннем. Учыненная шкода, якой можна было яшчэ пяць год таму назад пазбегнуць за невялікія грошы, зараз цягне на мільёны.

Цяжар выратавання каштоўнага помніка гісторыіі лёг на праваслаўных людзей, якія ў большасці сваёй засяляюць так званую ўсходнюю сцяну, дзе матэрыяльнае становішча , у параўнанні з іншымі рэгіёнамі краіны, значна горшае. Таму кожная дапамога, кожны жэст, які служыць адраджэнню Супраслеўскай лаўры, успрымаецца ў нашым асяроддзі з вялікай надзеяй і радасцю. Так было ўспрынята змеркаванне прэм’ера ўраду РП ад 15.X.1997 года наконт выдзялення 600.000 злотых прызначаных для выканання найпільнейшых работаў (замена дахаў) у будынках Супраслеўскага кляштара.

Вы, пане прэм’ер, змеркаваннем ад снежня леташняга года зменшылі згаданую суму на палову. Змеркаванне ў праваслаўным асяроддзі выклікала здзіўленне і пачуццё крыўды. Здзіўленне, таму што ў той час, калі асяродкі нацыянальных меншасцяў звязвалі з заняццем Вамі пасады прэм’ера надзею на лепшае разуменне іхніх праблемаў, цяжка было паверыць, што Вы пойдзеце следам за мясцовымі палітыкамі, якія нават святую для нас справу адраджэння Супраслеўскай лаўры выкарысталі, як сродак для барацьбы з палітычнымі супраціўнікамі. Лідар беластоцкай Выбарчай акцыі Салідарнасці факт дапамогі адышоўшага ўрада вызначае,як плату беларускаму электарату за галасы на апошніх выбарах .

Узнікае пытанне, каб дапамога была выдзелена раней, ці не было б гэта ацэнена як “купля” галасоў. Нажаль, такі стэрэатып спасціжэння праблемаў меншасці распаўсюджаны сярод значнай часткі беластоцкіх дзеячоў ВАС.

Вынікам з’яўляецца антаганізацыя грамадства і пачуццё крыўды сярод меншасцяў, што насяляюць наш рэгіён.

Сваім змеркаваннем , верым, што не наўмысным, Вы прычыніліся да замацавання таго стэрэатыпу. “Кара” - бо мепенавіта так успрынята гэтае змеркаванне, якая наносіць вытненне ў сферы культуры і веры праваслаўнай меншасці, не служыць на карысць дэкларыванных Вамі прынцыпаў і каштоўнасцяў.

Пасля пераломнага 1989 года найвышэйшыя ўлады рэспублікі шматкротна аказвалі дапамогу касцёлу, у першую чаргу касцёлу рымска-каталіцкаму. Аднак ніколі гэтаму не надавалася палітычнага кантэксту, які антаганізаваў бы людзей розных веравызнанняў. Таму мы супраць спробаў выкарыстання нас і важных для нас справаў у палітычнай гульні.

Пан Прэм’ер!

У 1577 годзе знакаміты гісторык Вялікага Княства Літоўскага Мацей Стрыйкоўскі пісаў : ***“Калі б гісторыя, якая з’яўляецца сведкай дзіўных рэчаў, была занядбана і ў нішто ператорана, то жыццё людское мала бы рознілася ад немай жывёлы ( якая не мае нічога любшага, акрамя роскашаў цялесных) і бясмяротнасць душы з добрай славаю за добрыя справы ўжо б згінула... Знікаюць дзяржавы, пераходзяць ад народа да народа манархіі, нішчацца рознымі выпадкамі каралеўствы, у нішто ператвараюцца скарбы. Але гісторыя ... не згіне ніколі, і таму справы і дзеі ўсе вечнасці і бясмерцю аддавайце так, каб у сэрцах і памяці простых, невучоных людзей ад самага слухання трываць застацца маглі”.***

Супрасль, будучы асяродкам рэлігійнага і культавага жыцця ў Польшчы, з’яўляецца таксама і сведкам дзіўных рэчаў, помнік часоў шматнароднай і талерантнай Рэчы Паспалітай, з’яўляецца сімвалам вечнасці і бясмяротнасці, які і ў рэальным і ў містычным вымярэнні дапамагае адрозніць людзкое жыццё ад немай жывёлы. Бо гэта месца, значэнне якога не абмяжоўваецца адбудаванай пасля варварскага знішчэння святыняй. Мы павінны ўталкаваць значэнне такіх месцаў як Супрасль кожнаму паляку і еўрапейцу, бо яно з’яўляецца відавочным знакам трываласці спраў духоўных, заахвочванем да ўзаемнага пазнання рэфлексіі над сабой і іншымі , спосабам перамогі над неталерантнасцю і ксенафобіяй, эксклюзівізмам культурным, рэлігійным ці грамадскім. Знікаюць дзяржавы, але не Супраслі, якія павінны трываць і пра якія павіны памятаць, бо яны гарантуюць “ бесмяротнасць душы і добрую славу за добрыя справы”.

Вялікі цяжар адбудовы Супраслеўскай лаўры кладзецца перш за ўсё на простых, невучоных людзей. Гэта дзякуючы іх ахвярнасці справа адбудовы галоўнай святыні кляштара набліжаецца да канца.

Верым, што і засталая частка лаўры, незалежна ад змеркавання і стасунку “моцных гэтага свету”, будзе ўратавана.

Ад імя праваслаўных абывацеляў Рэчы Паспалітай Польскай просім Вас пра адмену змеркавання і прызначэння Супраслеўскай лаўры датацыі ў першапачатковым памеры.

Ліст падпісалі:

Яўген Чыквін, старшыня Таварыства Славянскай меншасці Народнай Рэчы Паспалітай Польскай - Праваслаўнай; Яраслаў Вярдні, старшыня брацтва царкоўнага св. Міколы ў Беластоку;

Ян Сычэўскі - старшыня галоўнай рады Беларускага агульна-культурнага таварыства;.

Сакрат Яновіч - польска- беларускі пісьменнік;

Прафесар Міхаіл Малафееў, старшыня Усяпольскага праваслаўнага брацтва св.св. Кірыла і Мяфодзія;

Уладзімір Місіюк - генеральны сакратар Сусветнага брацтва праваслаўнай моладзі;

Пётр Крук - старшыня Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага задзіночання;

Прафесар Анатоль Адзіевіч - старшыня таварыства “Русь”;

Алег Латышонак - старшыня Беларускага гістарычнага таварыства;

Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польша;

Ян Рошчанка, старшыня Саюза украінцаў Падляхся;

Мікола Бушко, дырэктар міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі “Гайнаўка”;

Юры Хмялеўскі, старшыня Таварыства беларускіх журналістаў, галоўны рэдактар “Часопіса”;

Яўген Мірановіч, старшыня Праграмнай рады штотыднёвіка “Ніва”;

Александр Васілюк, старшыня Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы.

# Р Э Х А

*"Думаеце гэта здань? Можа і так", - сказаў Сільвэр, - але я не разумею аднаго.Мы ўсе чулі рэха. А хіба ж бачыў хто - небудзь,каб у зданяў быў цень? Дык адкуль тады ўзяцца рэху, калі не можа быць ценю?Не, хлопцы, так не бывае...*

***Р.Л.Стывенсан. Выспа скарбаў.***

**1.**

Славуты аргумент Джона Сільвера успомніўся мне падчас чарговай спробы ўцяміць, што за нялад такі ў Беларускім каралеўстве, чаго ж бракуе нашай мілай Беларушчыне каб шырыца і заваёўваць прыхільнікаў, што замінае радаваць заўзятараў, якія жыць без яе не могуць, але часцяком з прыкрасцю адкладаюць газету ці кніжку замест таго, каб параіць яе сябрам і знаёмым. Раптам мяне ўразіла, менавіта Рэха і ёсць тая нястача. Маю я тут на ўвазе, вядома ж, не фізічную з'яву, але паводле падабенства той водгук, які мусіць мець кожная падзея, каб стацца падзеяй, кожнае слова, каб адчуць, што дайшло паводле прызначэння. Як асобу караля стварае атачэнне, так культурным і іншым справам дае жыццё грамадскае Рэха, і для беларусаў гэта заўжды было праблемай. "Людзьмі звацца!", " - А хто там ідзе?", "Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце", - ці гэта не прага водгукаў, ці не пошук рэакцыі атачэння?

Мне, аднак, карціць засяродзіцца на цяперашчыне, бо на мой погляд мы сёння пакутуем ад нястачы Рэха. Наймацней гэта б'е па тых, чые словы гінуць без знаку ў наваколлі, і выклікае шэраг хваравітых рэакцый, пачынаючы ад разгубленнасці і меланхоліі.

А часцяком чалавек не хоча адразу паддацца, пачынае завастраць фармулёўку, узнімаць голас, крычаць, вырабляць розныя штукі, каб прыцягнуць увагу. Як апафеёз гэтага я разглядаю "чачэнскую правакацыю" С. Дубаўца, які выдумаў аднакласніцу, што нібы паехала ў Чачню снайперкай. Я схільны бачыць у гэтай неразважнай публікацыі акт адчаю. Што ж, прынамсі КДБ зацікавілася (калі, зноў жа, паверыць сп.Дубаўцу).

Сапраўднае, фізічнае рэха знікае, калі вакол крыніцы гуку пуста. Дзіўна ці не, але Ю.Станкевіч у "Крыніцы" прапанаваў менавіта такі выраз: Вялікая Інтэлектуальная Пустэча, што надзіва трапна перадае і разрэджанасць думкі, і поўную адсутнасць водгуку, і раз'яднанасць ды самоту тварцоў.

Яшчэ адным тыпам рэакцыі стала апошнім часам стварэнне штучнага рэха, або тэхнічнай мовай - рэберверацыі. "Наша Ніва" ў Інтэрнэце, "Ненажытая спадчына" і "Вострая брама" на "Свабодзе" - ўсё гэта, акрамя рэкламы, яшчэ і пошукі псіхалагічнага камфорту, штучнае запаўненне пустэчы. Дарэчы, пачытайце ў "Нашай Ніве" абвестку пра перадачу "Вострая брама" (дзе наўпрост на 90% чытаюцца артыкулы з "Нашай Нівы") і Вы ўбачыце сапраўдны хваласпеў Рэху - пад назвай Культурнага Кантэксту, Але не ў гэтым рэч - увачавідкі відаць, што натуральнага водгуку чамусці бракуе.

**2.**

Наўпроставым наступствам нястачы Рэха з'яўляецца, між іншым, страта творцамі пачуцця маштабу. Сталыя пункты параўнання (рэперы) стварае толькі жывая рэагавальная аўдыторыя. Інакш не могуць існаваць крытэрыі грамадскай вартасці і мастацкай якасці! Акцэнты незаўважна змяняюцца пад уплывам выпадковых чыннікаў, што дзейнічаюць у межах вузкага творчага кола і, непазбежная ў прынцыпе, неадпаведнасць паміж ім і адсэпараванай аўдыторыяй павялічваецца да непрыймальных памераў. Вельмі хутка гэта вядзе да дыспрапорцый, што робяць творчую прадукцыю ўсё менш цікавай. У нармальнай сітуацыі такія выпучэнні былі б хутка пастаўлены на вартае іх месца, але цяпер яны без перашкод набываюць статус творчых ды грамадскіх з'яў - і паспяхова адстрашваюць людзей ад беларускага слова.

Хачу адзначыць, што я ані ў якім разе не супраць індывідуалізму творцы. Па майму глыбокаму перакананню, толькі ён адпавядае сучасным сусветным стандартам. Але ва ўмовах гранічна паслабленнай зваротнай сувязі індывідуалізм развіваецца ў адстутнасці здаровых канкурэнцыі і ціску, і таму празмерна экспануюцца тыя бакі асобы, якія ў звычайным грамадстве былі б прыцененыя да нармальнага для людской супольнасці ўзроўню. А ў нас, маючы грамадства нават крыху больш кансерватыўнае, чым сярэдняя норма, назіраем такую "свабоду нораваў" сярод творцаў, якой пазайздросцяць найліберальнейшыя супольнасці.

Адсутнасць рэха запавольвае развіццё Беларушчыны, вядзе да страты кірунку, марнатраўства сіл і сродкаў, размывання мастацкасці і ў выніку - да страты культурным прадуктам спажывецкіх якасцяў.

Адчуваю, што неабходна падаць нейкія прыклады, не зважаючы на небяспеку пакрыўдзіць тых, хто будзе названы. Грэх супольны, таму названыя і неназваныя могуць самі вызначыць меру сваёй ангажаванасці. Так ці інакш, найяскравейшым прыкладам я лічу няўцямныя, але шматслоўныя размовы наконт постмадэрнізму. Прайшоўшы па розных выданнях на працягу доўгага часу, яны паспяхова пазбеглі і тлумачэння для шырокай аўдыторыі што такое постмадэрнізм і навошта пра яго гавораць. Прачытаўшы больш дзесяці публікацый, я не пабачыў ніводнае спробы зацікавіць чытача тым, што нібыта для яго друкуецца. Калі ж за чытача, як я разумею, пачынаюць змагацца, гэта часцяком больш нагадвае эксгібіцыянізм, чым мастацтва. Цікаўным раю пачытаць Сл. Адамовіча, А.Глёбуса, Ул.Арлова - знойдзеце не адзін прыклад, як здэзарыентаваныя здольнасці даюць неадпаведны магчымасцям вынік.

З такога гледзішча заканамернай з'явай здаецца сцяна неразумення, што існуе паміж "ахопленнымі Беларушчынай" і "несазнацельным насельніем".

Бо каб пачаць хаця б чытаць па - беларуску чалавеку патрэбны стымул. Пакуль чалавек не зацікавіўся, ён не ведае, а таму і не улічвае і не паважае беларускія справы. Няма розгаласу - няма цікавасці - няма суперажывання.

Недзе пад Новы Год А.Дашкевіч урачыста абвясціў у "Нашай Ніве" пра супрэмацыю "беларускага культурнага прадукту". Ён лічыць, што сёння сапраўды культурны (ці прагны культуры) чалавек пачынае адчуваць перавагу беларускага. Мне пакуль што здаецца, што "беларускі прадукт" канкурэнтны толькі "сярод сваіх" . Я , шчыра кажучы, не бачу яшчэ такой спакусы, якая б прымусіла рускамоўных жыхароў Беларусі тлумна ісці да Беларушчыны каб, так бы мовячы, не адстаць ад жыцця. Так было ў свой час з творамі Караткевіча, дагэтуль здараецца - з творамі Быкава, але гэтага мала, каб выцягнуць цэлую культуру, пазбаўленую Рэха.

Якія пагрозы нясе існуючы стан спраў? Насуперак звычкам, прапаную звярнуцца да суседзяў. Польскі даследчык Павел Ясеніца піша цікавую для нас тэму ў эсэ "Польская анархія", аналізуючы прычыны згубы Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі. Піша з забойчай дакладнасцю:

"... Так званы жыццёвы і палітычны рэалізм часам нагадвае слепату. Хворыя на яго людзі не заўважаюць відавочнага, таго менавіта, што гуманістыка ёсць магутнай сілай, здольнай займаць пазіцыі, абсалютна недасяжныя для палітыкаў, генералаў і тэхнакратаў. Таго, хто стварае і раздае культурныя каштоўнасці, паўсюдна цэняць . Такому народу лягчэй прабачаюць, дапамагаюць, цяжэй пагаждаюцца з ягонай крыўдай... . Свет прызвычаіўся лічыць, што ў краі надвіслянскім ды наднёманскім нічога вартага не паўстае. Калі ж можна без Польшчы абысціся ў культуры, дык гэтак жа лёгка можна і на палітычнай карце".

Каментарыі, лічу, непатрэбныя.

Фактычна,усё гэта вядзе нас да простай думкі:

Знешнія праявы гавораць пра нас тое, што развіццё Беларушчыны ідзе дрэнна і ў дрэнным кірунку, а гістарычны досвед тлумачыць, што вынікам такога стану будуць вялікія непрыемнасці.

**3.**

Чаму ўсё так адбываецца? Зноў суседзі прыходзяць на дапамогу:

" Імператыў самазахавання фармаваў асаблівасці нацыянальнага характару, які ў найагульнейшых рысах апісваецца мімікрыяй, пасіўнасцю, спецыфічным апартунізмам, скіраванымі на мінімізацыю рызыкі. Глыбейшыя, сутнасныя каштоўнасці шыфраваліся эмацыйнасцю і завостраным пачуццём роднага. У дарвіністскім сэнсе наш народ быў ідэальна адаптаваны - але толькі для выжывання, не для развіцця. Калі ж гаварыць пра нацыю, гэта ненармальна і бесперспектыўна...

Аб'ектыўная, а можа і адзіная мера перспектыўнасці - вольны рынак сусветнай грамадскай думкі. Аблічча , якое мы дэманструем свету пераважна правінцыйнае. Тое, што гэта нам накінулі, не падлягае сумненню, але абставіны не адменяць факту... На вольным рынку толькі нехта сапраўдны знойдзе прызнанне, і ўсе спробы падмяніць сусветныя стандарты чымсці іншым - ці то асветаю, ці хатняю другаснасцю - сказаныя на няўдачу".

І яшчэ:

"... Ідэя украінскасці шмат для каго хутчэй выключае, чым уключае тое, што авангарднае, альбо элітарнае, альбо проста індывідуальнае. Пакуль гэта так, то гэтая грамада - не нацыя".

(Рыгор Грабовіч, дырэктар Украінскага Інстытуту пры Гарвардскім універсітэце, ЗША).

Напісана гэта было не сёння, і ўжо можа з дакладнасцю сказаць, што вызначаная панам Грабовічам задача пераарыентацыі эліты нацыі з парадыгмы выжывання да парадыгму развіцця на Беларусі не выкананая. З гэтай прычыны культура наша сёння ў стагнацыі, і менавіта культура, паймаваная ў шырокім сэнсе, і цягне сёння на дно беларускую справу. Гэта яе цана і значэнне, як напісаў пра тое Павел Ясеніца.

Вось такім уяўляецца мне сёняшні стан Беларушчыны і такую я бачу мэту, да якой мусім шукаць шляхі. Усё гэта нагадвае тыповую задачу з галіны менеджменту. Фірма мае вытворчы патэнцыял і перспектыўны рынак, але прадукцыя не прадаецца. Аналіз, выкананы намі, паказаў, што ў фірме няма сувязі паміж аддзеламі, і не ўлічваюцца пажаданні і думкі спажыўцоў. Маркетынгавае стратэгія цалкам заснавана на ўяўленнях асобных супрацоўнікаў без практычных даследванняў.

Выснова - неабходная змена стратэгіі. Патрэбныя грунтоўнае вывучэнне патрэб рынку і каардынацыя падраздзяленняў, каб продаж аднаго тавару спрыяў поспеху другога.

Між іншым, пачаткі гэтага ёсць, наапрыклад у "Нашай Ніве". Мяркую, што і "Наша Слова" мусіць узяць на сябе частку гэтай справы, як трыбуна для інфармацыі, водгукаў, ацэнак і аналізу. У ідэале кожны арыгінальны твор, што з'яўляецца ў полі Беларушчыны, мусіць сустракаць некалькі публічных водгукаў:анонс, рэцэнзія, аналіз. Безумоўна, пакуль гэта чыстая мара. Але рацыянальная мара.

Альтэрнатыва вядомая: калі ў жывых твораў не з'яўляецца цені-водгукі, яны з жывых ператвараюцца ў здані.

***Д.Жукоўскі, Гародня.***

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Замак, замок, смык, слесар.

Старажытныя беларускія словы **замак** і **замок** трывала існуюць у нашай мове і ўзніклі амаль адначасова са з'яўленнем беларускай дзяржавы. Калі ў нас з'явіліся багатыя людзі, а разам з імі і злодзеі, што хацелі быць заможнымі не працуючы, то гаспадар мусіў зачыняць свае багацці ў куфэрку ці хаце на замок - спецыяльнае прыстасаванне для замыкання з дапамогай ключа. Потым гэта слова атрымала - іншыя вызначэнні; элемент архітэктурных каменных і драўляных кагструкцый і дэталь вогнястрэльнай зброі ды іншае, але мы больш падрабязна спынімся на першапачатковых яго значэннях.

### Замок.

Прыстасаванне для замыкання на ключ чаго-небудзь (дзвярэй, куфэркаў, шафаў і г.д.). Пад час археалагічных раскопкаў найчасцей сустракаюцца дзвярныя замкі і ключы да іх.

Дзвярныя замкі падзяляюцца на з'ёмныя (цыліндрычныя з "устаўной" дужкай і разыходнымі спружынамі, замкі з адкіднай паўкруглай дужкай) і нерухомыя накладныя.

Замкі і ключы з Гародні XII-XVii ст.

Цыліндрычныя замкі існавалі з X да XV стст. Корпус цыліндрычнага замка звычайна аздабляўся насечкамі альбо напаянымі падоўжнымі ці кальцавымі палоскамі. Існавалі розныя тыпы цыліндрычных замкоў, прычым да кожнага тыпу замка вырабляўся адпаведны ключ.

У XVI ст. на змену цыліндрычным прыйшлі замкі з корпусам у выглядзе трохкутніка, чатырохвугольніка або шара. У канцы XVII ст. з'явіліся шрубавыя замкі. Сучасныя формы "рэпчатых" замкоў вядомы з XVIШ ст.

Нерухомыя замкі падзяляюцца на камбінаваныя ( з драўлянай засоўкай) і цэльнаметалічныя. Першы тып замкоў існаваў у XIV - XVI ст.ст. і меў ключы з гатычнымі элементамі. З другой паловы XVI ст. пашырыліся цэльнаметалічныя замкі з трубчатымі ключамі. З XVII ст. іх бародкі атрымалі выгляд перавёрнутай літары "Т". Да вырабаў , звязаных з замкамі варта аднесці замочныя лічыны, прычым некаторыя з іх мелі арнаментаванае аздабленне.

Ключ і замок з Мсціслава XVII-XVIII ст.

Існавалі таксама замкі, цалкам зробленныя з дрэва. Яны адчыняліся з дапамогаю спецыяльных каленчатых ключоў.

### Замак

Замак з XI стагоддзя ў Еўропе - гэта ўмацаванае жыллё багатага чалавека (князя, караля, графа ці барона). Атрымаў назву ад слова "замок". Першапачаткова, ад таго, што дзверы і брамы замыкаліся на замкі ў адрозненні ад простых хатаў. Пазней замкі сталі замкамі ад зямель. Не ўзяўшы, не "адамкнуўшы" яго нельга было завалодаць краем ці нейкай тэрыторыяй.

Крэўскі замак. Рэканструкцыя І. Чарняўскага.

***Алег Трусаў,***
*кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры.*

### Ад смыка да слесара

Зачапіўшыся за словы **"замак"** і **"замок"** нельга прайсці міма лінгвітычнага паходжання гэтых словаў. Замок, замкнуць, адамкнуць, замыкаць, прымыкаць, адмыкаць маюць агульны корань з апорай на зычныя м-к. Дзесьці ў гэтым корані адгадка паходжання слова замок. І яна не так глыбока. Ёсць старабеларускае слова "смыкаць", што абазначае: шчыпаць, абрываць, красці, цягаць, уцякаць. Слова "смыкнуць" - украсці, уцячы. У польскай мове слова "smykac" абазначае тое самае Польскае слова "smykalka" абазначае кемлівасць (па -расейскаму "смекалка"), якасць вельмі патрэбная злодзею.

Згадаем і словы **"смык"** , **"смычок" ад скрыпкі** і тое, што скрыпка інструмент шчыпковы. Смык шчыпае струны. Дарэчы, у беларусаў, як у сапраўднага еўрапейскага народа, была некалі свая нацыянальная скрыпка. Яна мела, праўда, усяго тры струны, але ў параўнанні з іншымі інструментамі гучала вельмі прыстойна. Гэтая скрыпка і называлася **смык**, а да смыка ўжо дапасоўваўся **смычок..** Не лішнім будзе нагадаць што, калі Францішак Багушэвіч называў сваю другую кніжку "**Смык беларускі**"(першая была "Дудка беларуская"), то меў на ўвазе не смычок, а, менавіта, гэты трохструнны **смык**.

Згадаем і слова "**умыкнуць**" - украсці.

Такім чынам словы "**смыкаць**", "**умыкнуць**" абазначалі "ўкрасці", "адшчыпнуць" (таксама ўкрасці, але не ўсё), "уцячы". Супраць такіх дзеяннеў трэба было **замыкаць**, вешаць **замок**. А ўжо пасля **адмыкаць**, для сябе .

Цалкам пацвярждаецца ўсё сказанае і аналізам таго ж гнязда словаў унямецкай мове. Das Schloss - замак і замок.Der Schlussel - ключ.Schliessen - зачыняць, замыкаць.Schleissen - шчыпаць.Паўтараецца ланцуг ад "шчыпаць" да "замка".

А пры чым тут слесар? А пры тым, што ў Германіі майстар якія ўмеў рабіць замкі (das Schloss) называўся па-нашаму замочнікам, а па-нямецку der Schlosser, адкуль і пайшло слова "слесар", распаўсюдзіўшыся павогул на майстроў па апрацоўцы розных металічных вырабаў.

***Станіслаў Суднік.***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 9 . 02 . 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 463.